Ostrogorski Centre BelarusDigest



# Беларуска-расійскія дачыненні на фоне канфлікту ва Украіне

Рыгор Астапеня
Дзмітры Балкунец

Аналітычны дакумент 5 | 1 жніўня 2016

Pictures: www.kremlin.ru

Мінск-Лондан
2016

# Падзякі

Гэта даследаванне было падтрыманае грантам Фонду Мота і рэалізаванае ў супрацоўніцтве з Фондам “Понціс” і Цэнтрам Астрагорскага.

Аўтары выказваюць падзяку Дзянісу Мельянцову, Юрыю Баранчыку, Валерыі Касцюговай, Сяргею Богдану і Яраславу Крывому за іх заўвагі да ранейшых версіяў даследавання.

Гэтаксама вялікай дапамогай пры падрыхтоўцы аналітычнага дакументу паслужылі каментары ўдзельнікаў Форуму Астрагорскага, які прайшоў у Мінску ў 2016 годзе.

# Рэзюмэ


- Пасля пачатку расійска-ўкраінскага канфлікту Крэмль настойліва спрабуе павялічыць кантроль над Беларуссю, што прыносіць адваротны эфект – цягам 2014–2015 гг. палітыка беларускага ўрада стала больш самастойнай.

- У беларуска-расійскіх дачыненнях заўсёды існаваў парадокс адначасовага збліжэння і аддалення. Сёння другі працэс выглядае мацнейшым, пра што сведчаць змяншэнне вайсковай залежнасці і адмова размяшчэння вайсковай базы на беларускай тэрыторыі; падзенне ролі расійскай эканомікі (выкліканае перадусім крызісам) для Беларусі; разыходжанні ў замежнай палітыцы і медыйнай сферы; канфлікты паміж палітычнымі элітамі абедзвюх краінаў.

- Прычына непаразуменняў у тым, што беларускія ўлады хочуць фармальнай інтэграцыі з эканамічна моцнай і палітычна памяркоўнай Расіяй, якой яна перастала быць. Апроч таго, Беларусь дагэтуль на шляху самастанаўлення, таму яе дзяржаўныя інстытуты і замежная палітыка становяцца больш незалежнымі ад Масквы.

- Пры гэтым Беларусь не прыняла ніводнага кардынальнага кроку да геапалітычнага развароту на Захад, бо зацікаўленая ў павелічэнні прасторы для геапалітычнага балансавання, а не пераарыентацыі краіны. Аднак у Расіі многія асцерагаюцца, што малыя крокі па нармалізацыі дачыненняў Беларусі і Захаду могуць быць прэлюдыяй для далейшага развароту Беларусі ў бок ЕС і ЗША.

- Абедзве краіны зацікаўленыя ў захаванні інтэграцыйнай, хоць часта і сімуляцыйнай, рыторыкі. Масква яшчэ доўгі час будзе ўтрымліваць Мінск у зоне сваіх уплываў, зважаючы на вялікае палітычнае і эканамічнае значэнне Беларусі для Расіі. Гэтаксама і Мінск не гатовы да поўнай самастойнасці, бо эканамічна залежыць ад Расіі і разлічвае на падтрымку Крамля ў пераадоленні крызісу.

# Уступ

Гэтае даследаванне разглядае інтэграцыйныя/дэзынтэграцыйныя тэндэнцыі ў беларуска-расійскіх дачыненнях пасля пачатку пратэстаў ва Украіне ў лістападзе 2013 года. Еўрамайдан, анексія Крыма і вайна ў Данбасе істотна змянілі еўрапейскую палітыку, у тым ліку дачыненні паміж Масквой і Мінскам.

Калі не лічыць Украіны, дзе Расія выкарыстоўвае іншыя, перадусім вайсковыя, інструменты ўплыву, Беларусь застаецца адзінай краінай Еўропы, дзе Крэмль мае істотны кантроль над палітыкай і эканомікай. Болей за тое, на фоне геапалітычнага развароту Украіны Расія спрабуе пертварыць Беларусь у яшчэ больш залежную дзяржаву праз павелічэнне вайсковай прысутнасці, выкарыстанне інструментаў эканамічнага ўплыву, паглыбленне інтэграцыі і медыйную прапаганду. Гэтыя дзеянні, аднак, прыводзяць да адваротных вынікаў.

Нягледзячы на шчыльнасць дачыненняў і фармальнае будаўніцтва Саюзнай дзяржавы, якое ўключае таксама і дзейсныя інтэграцыйныя працэсы, па шматлікіх крытэрах Беларусь і Расія аддаляюцца адна ад адной[1]. Дзве прычыны тлумачаць гэта.

Па-першае, палітыка Крамля адносна Украіны прывяла да пераасэнсавання ўнутры беларускіх уладных колаў магчымых крокаў, якія Расія можа зрабіць у дачыненні да Беларусі. Бадай ніколі дагэтуль беларускія ўлады не ўспрымалі магчымасць расійскай вайсковай аперацыі ўнутры Беларусі настолькі сур’ёзна, заяўляючы пра неабходнасць мець войска, здольнае “быць перакінутым за палову ночы з Брэста ў Віцебск, каб нанесці ўдар”[2].

**Бадай ніколі дагэтуль беларускія ўлады не ўспрымалі магчымасць расійскай вайсковай аперацыі ўнутры Беларусі настолькі сур’ёзна**

Па-другое, заняпад расійскай эканомікі падважвае ролю Крамля як гаранта дабрабыту Беларусі. Ва ўмовах падзення цэнаў на энергарэсурсы, змяншэння ўнутранага рынку, падзення ВУП і золатавалютных рэзерваў Расіі дыверсіфікацыя беларускай эканомікі з прыгожага жадання ператвараецца ў жыццёвую неабходнасць.

Даследаванне перадусім прысвечанае беларуска-расійскім дачыненням з перспектывы Беларусі, хоць наступствы аддалення часта люстэркавыя і для Расіі. Напрыклад, улады Расіі болей не ў стане разлічваць, што Беларусь будзе падтрымліваць палітыку Крамля на міжнароднай арэне, якая праводзіцца без узгаднення з пазіцыяй Мінска.

Сённяшняя канфліктагеннасць дачыненняў і спалучэнне адначасова інтэграцыйных і дэзынтэграцыйных працэсаў шмат у чым спрыяюць міфалагізацыі. З аднаго боку, дачыненні Масквы і Мінска ўяўляюцца як барацьба Аляксандра Лукашэнкі за незалежнасць Беларусі ад Крамля. А з іншага боку, Аляксандр Лукашэнка паўстае як марыянетка ў руках кіраўнікоў Расіі. Гэтае даследаванне мае на мэце паказаць сапраўдны стан беларуска-расійскіх дачыненняў.

---

1 Валерия Костюгова, 2010. *Российско-белорусские отношения: условия, состояние, перспективы*, <http://belinstitute.eu/images/doc-pdf/Research_Kostiugova.pdf> [доступ 27 мая 2016].

2 Еврорадио, 2015. ‘О чем на пресс-конференции говорил Лукашенко более 7 часов’, <http://euroradio.fm/ru/press-konferenciya-lukashenko-onlayn> [доступ 27 мая 2016].

# Вайсковая дэзынтэграцыя: як сказаць саюзніку “не”

Вайсковае супрацоўніцтва заўсёды было “святой каровай” беларуска-расійскай інтэграцыі, на падставе чаго журналісты і заходнія эксперты дазвалялі сабе сцвярджэнні, што беларускае войска з’яўляецца часткай расійскага[3]. Адной з падставаў падобнага акрэслення з’яўляецца Адзіная рэгіянальная супрацьпаветраная сістэма[4], якая, паводле заяваў расійскіх вайскоўцаў, пачала працаваць у 2016 годзе. Сама дамова пра яе стварэнне была падпісаная яшчэ ў 2009 годзе і насамрэч не ўносіць нічога новага ў расійска-беларускае вайсковае супрацоўніцтва. Праўдападобна, што аб’ява пра функцыянаванне супрацьпаветранай сістэмы мае на мэце змякчыць адмову Беларусі размясціць на сваёй тэрыторыі расійскую вайсковую авіябазу[5].

Яшчэ да расійска-ўкраінскага канфлікту, у красавіку 2013 года, Аляксандр Лукашэнка заявіў, што стварэнне расійскай авіябазы немагчымае, бо гэта не спрыяе суверэннасці Беларусі. Аднак з таго часу расійскія ўлады працягвалі артыкуляваць намер мець базу ў Беларусі, у дадатак да двух існых вайсковых аб’ектаў на тэрыторыі Беларусі[6]. Канфлікт ва Украіне і звязанае з ім павелічэнне кантынгенту НАТА ў Прыбалтыцы і Польшчы ўзмацнілі імпэт Крамля і павялічылі значэнне магчымай авіябазы. Хоць яе сапраўдная вага перадусім залежыць ад тыпу самалётаў, якія там могуць быць размешчаныя[7].

Мінск адмовіўся ад стварэння базы, бо гэта аслабіла б пазіцыю Мінска ў дачыненнях з Масквой[8], паказала б Захаду несамастойнасць Беларусі і прывяло б да яшчэ большай вайсковай залежнасці Беларусі ад Расіі. Беларусь болей не зможа выглядаць нейтральнай у расійска-ўкраінскім канфлікце (ці, кажучы шырэй, супрацьстаянні Расіі і Захаду), што разверне працэс эмансіпацыі Беларусі на міжнароднай арэне, якая распачалася на фоне ўкраінскага канфлікту. Расійска-беларускія перамовы пра вайсковую базу супалі па часе з абмеркаваннем адмены санкцыяў у дачыненні да Беларусі. Праўдападобна, што адмова беларускага кіраўніцтва ад з’яўлення на тэрыторыі краіны вайсковай базы была абумоўленая жаданнем не ўскладняць дачыненні са Злучанымі Штатамі і Еўрапейскім Саюзам. Гэтаксама беларускія ўлады могуць усведамляць небяспеку: стварэнне базы можа ўцягнуць яе ў расійска-заходняе

---

3 Agata Wierzbowska-Miazga, 2013. *Wsparcie drogą do podporządkowania. Rosja wobec Białorusi*, <http://www.osw.waw.pl/sites/default/files/pw_34_bialorus_pl_net.pdf> [доступ 27 мая 2016].

4 Леонид Спаткай, 2015. *Региональная система ПВО Беларуси и России*, <http://www.bsblog.info/regionalnaya-sistema-pvo-belarusi-i-rossii/> [доступ 27 мая 2016].

5 Siarhei Bohdan, 2016. *Does the Single Air Defence System Bring Belarus Closer to Russia?*, <http://belarusdigest.com/story/does-single-air-defence-system-bring-belarus-closer-russia-25295> [доступ 27 мая 2016].

6 Расійская радыёлакацыйная станцыя “Волга” побач з Ганцавічамі і 43-і вузел сувязі Ваенна-марскога флоту Расіі каля Вілейкі.

7 Радыё “Свабода”, 2016. *‘Рэальная пагроза ў рэгіёне з разьмяшчэньнем базы ўзрасьце — і Захад ня будзе на гэта абыякава глядзець’*, <http://www.svaboda.org/content/vyniki-hodu-avijabaza/27476929.html> [доступ 27 мая 2016].

8 Siarhei Bohdan, 2015. *Russian Airbase In Belarus: A Long Story With No End In Sight?*, <http://belarusdigest.com/story/russian-airbase-belarus-long-story-no-end-sight-23334> [доступ 27 мая 2016].

супрацьстаянне[9] [10]. Дагэтуль афіцыйны Мінск паспяхова блакуе размяшчэнне авіябазы[11], пра што сведчыць знікненне заяваў расійскіх афіцыйных прадстаўнікоў аб стварэнні дадатковага вайсковага аб’екта ў Беларусі, а таксама фінансавыя інвестыцыі Мінска ў сваю вайсковую авіяцыю. Выглядае, што сёння пытанне вайсковай базы страціла сваю актуальнасць. Пры тым, што ў выпадку неабходнасці Расія можа размясціць базу на сваёй тэрыторыі ў Калінінградзе з меншымі выдаткамі.



Узлёт беларускага самалёта МіГ-29 на трасе М4 18 мая 2016 г. (© TUT.by)

Адмова ад стварэння авіябазы адлюстроўвае больш шырокі трэнд спробаў Беларусі зменшыць вайсковую залежнасць[12]. Навучанне беларускіх вайскоўцаў у Расіі заўсёды ментальна звязвала беларускае і расійскае войскі – цяжка знайсці сярод найвышэйшых вайсковых чыноў Беларусі каго-небудзь, хто не вучыўся ў Расіі[13]. Аднак цяпер колькасць беларускіх вайскоўцаў-студэнтаў у расійскіх вайсковых ВНУ змяншаецца – у мінулым навучальным годзе іх было 447, а сёлета – 374. Як тлумачыць адзін з вайсковых беларускіх чыноўнікаў, “паколькі мы паступова адкрываем спецыяльнасці, якіх у нас раней не было, колькасць тых, хто атрымлівае вайсковую адукацыю за межамі нашай краіны, штогод памяншаецца”[14].

---

9 Арсений Сивицкий, Юрий Царик, 2016. *Беларусь в ЕАЭС: год спустя (неутешительные итоги и сомнительные перспективы)*, <http://csfps.by/files/files/belarus_in_the_eaec.pdf> [доступ 27 мая 2016].

10 Тут можна дадаць прыклад спробы гуляць на расійска-заходняй барацьбе, якая няўдала скончылася. Прэзідэнт Кыргызстана Курманбек Бакіеў у 2009 годзе за закрыццё амерыканскай базы атрымаў ад Расіі крэдыт у $ 400 млн. Пазней Бакіеў перdesigned амерыканскую базу ў Цэнтр транзітных перавозак і ўзяў з амерыканцаў за нібыта новую базу дадатковыя грошы. Мяркуецца, што адной з прычынаў зрынання яго рэжыму сталіся менавіта падобныя паводзіны ў дачыненнях з Расіяй і Захадам.

11 Siarhei Bohdan, 2016. *Moscow Gives Belarus Arms and Seems to Abandon Airbase Plans*, <http://belarusdigest.com/story/moscow-gives-belarus-arms-and-seems-abandon-airbase-plans-24254> [доступ 27 мая 2016].

12 Siarhei Bohdan, 2015. *Belarus-Russia Military Cooperation: Can The Kremlin Dictate The Terms?*, <http://belarusdigest.com/story/belarus-russia-military-cooperation-can-kremlin-dictate-terms-23814> [доступ 27 мая 2016].

13 Belarus Profile, http://belarusprofile.com/be/tags/сілавікі.

14 Звязда, 2014. ‘*Ваенная адукацыя: новыя спецыяльнасці і будучыя прэферэнцыі*’, <http://zviazda.by/be/news/20140319/1395177712-vaennaya-adukacyya-novyya-specyyalnasci-i-buduchyya-preferencyi> [доступ 27 мая 2016].




Беларуска-кітайскія вайсковыя вучэнні ў чэрвені 2015 г.
(© Ваеннае інфармацыйнае агенцтва “Ваяр”)

У супольных вучэннях “Шчыт саюза” ў 2015 годзе ўдзельнічала ў паўтара раза менш вайскоўцаў, чым у “Шчыце саюза – 2011” ці “Захадзе-2013” (~8 тысяч вайскоўцаў супраць ~12 тысяч). Пры тым, што раней вучэнні без Расіі выглядалі ледзь не немагчымымі, то цяпер беларускія дэсантнікі штогод практыкуюцца разам з кітайскімі вайскоўцамі. Хоць памер гэтых вучэнняў выглядае мізэрным у параўнанні з практыкаваннямі з Расіяй, ён паказвае жаданне Беларусі адшукаць для сябе новых партнёраў. Такім чынам, сёння, на думку аналітыка Андрэя Паратнікава, узровень вайсковай залежнасці Беларусі ад Расіі нават меншы, чым, напрыклад, узровень мілітарнай залежнасці Вялікабрытаніі ад Злучаных Штатаў[15].

Кітай наагул стаў заўважным вайсковым партнёрам для Беларусі. Найбольш гэта відаць у супольнай распрацоўцы зброі, якую праводзяць Мінск і Пекін, прыкладам чаго з’яўляецца сістэма залпавага пуску “Паланэз”[16]. Беларусь абрала кірунак распрацоўкі як мага большай колькасці ўласнага вайсковага абсталявання, уключна са стварэннем уласных ракетаў, якое праўдападобна адбываецца з дапамогай украінскіх адмыслоўцаў[17]. На міжнароднай арэне вайсковыя інтарэсы Беларусі ўсё больш разыходзяцца з інтарэсамі Расіі. Беларусь, апроч супрацоўніцтва з Кітаем, дапамагае ўкраінскаму войску[18] і супрацоўнічае з праціўнікамі Расіі на Бліжнім Усходзе, за што расійскія эксперты абвінавачваюць Беларусь у падтрымцы “Ісламскай дзяржавы”[19].

На міжнароднай арэне вайсковыя інтарэсы Беларусі ўсё больш разыходзяцца з інтарэсамі Расіі

15 Тэлеканал “Белсат”, 2014. ‘Два на два / «НАТО не будзе намагацца захапіць Беларусь. Большая пагроза для нас – Расея»’, <https://www.youtube.com/watch?v=xgt_u8eYogc> [доступ 27 мая 2016].

16 Денис Лавникевич, 2015. *«Полонез» с китайским акцентом,* <http://www.bsblog.info/polonez-s-kitajskim-akcentom/> [доступ 27 мая 2016].

17 Александр Алесин, 2016. *Москва ищет украинские корни белорусских ракет*, <http://naviny.by/rubrics/society/2016/04/25/ic_articles_116_191523> [доступ 27 мая 2016].

18 Денис Лавникевич, 2016. *Беларуские бонусы в конфликте России и Украины*, <http://www.bsblog.info/belaruskie-bonusy-v-konflikte-rossii-i-ukrainy> [доступ 27 мая 2016]; Siarhei Bohdan, 2015. *Belarus Helps Ukraine with Military Equipment*, <http://belarusdigest.com/story/belarus-helps-ukraine-military-equipment-22274> [доступ 27 мая 2016].

19 Siarhei Bohdan, 2015. *How Belarus Disappointed Russia In Ukraine And Syria*, <http://belarusdigest.com/story/how-belarus-disappointed-russia-ukraine-and-syria-24066> [доступ 27 мая 2016].

Празмерная вайсковая інтэграцыя можа быць непапулярнай сярод беларускіх уладных колаў не толькі праз геапалітычныя чыннікі. Напрыклад, заробкі ў беларускім войску ў некалькі разоў меншыя[20], чым у расійскім, і даволі натуральна, што павелічэнне кантактаў будзе нараджаць пачуццё несправядлівасці сярод беларускіх вайскоўцаў адносна стаўлення да іх беларускай дзяржавы і нават другаснасці ў параўнанні з расійскімі афіцэрамі. Болей за тое, Аляксандр Лукашэнка і беларуская дзяржава могуць страціць папулярнасць у вачах айчынных вайскоўцаў.

## Няўдача ЕАЭС і эканамічнае супрацоўніцтва

Структура беларускай вытворчасці гістарычна была арыентаваная на расійскі рынак, таму ўзнікненне крызісных з'яў у расійскай эканоміцы і змяненне коштаў на энерганосьбіты на сусветным рынку непазбежна прыводзяць да пагаршэння гандлёвага балансу Беларусі. Шмат у чым эканамічны заняпад Расіі абумовіў, што першы год існавання Еўразійскага эканамічнага саюза стаў для Беларусі няўдалым.



Кіраўнікі Беларусі, Казахстана і Расіі падчас падпісання Дамовы аб стварэнні Еўразійскага эканамічнага саюза 29 мая 2014 г. (© РИА Новости)

Па-першае, інтэграцыйны праект пераняў практычна ўсе тыя выняткі (каля 600), што існавалі ў Мытным саюзе[21]. Беларусь, напрыклад, захоўвае складаны інстытут адмысловага імпарцёра ў галіне тытунёвай і алкагольнай прадукцыі. Праз падобныя механізмы каля ⅔ тавараў і

[20] Комсомольская правда, 2012. 'Белорусским военным поднимут зарплату до 2 тысяч долларов?', <http://www.kp.by/daily/25831/2805901> [доступ 27 мая 2016].

[21] У ЕЭС існуе розніца паміж выняткамі, абмежаваннямі і бар'ерамі. Першыя палягаюць на выключэнні тавару ці паслугі з правілаў функцыянавання супольнага рынку, другія азначаюць права краінаў уводзіць захады дзеля абмежавання правілаў рынку, а трэція з'яўляюцца фактычнымі перашкодамі ў функцыянаванні рынку. ЕЭС успрымае выняткі ды абмежаванні як дапушчальныя, а бар'еры – не.
Евразийская экономическая комиссия, 2015. 'О ситуации по устранению препятствующих функционированию внутреннего рынка Евразийского экономического союза барьеров для взаимного доступа, а также изъятий и ограничений в отношении движения товаров, услуг, капитала и рабочей силы', <http://www.eurasiancommission.org/ru/act/integr_i_makroec/dep_razv_integr/SiteAssets/Аналитический%20доклад.pdf> [доступ 27 мая 2016].

паслугаў выключаныя з супольнага рынку ЕЭС. Аднак Беларусь выступае за адмену ўсіх выняткаў, жадаючы лібералізацыі рынку нафты і газу, што дазволіла б Беларусі набываць у Расіі нафту без неабходнасці вяртання мыта ў расійскі бюджэт[22]. Але ўключэнне гэтых энергарэсурсных галінаў у супольны рынак мае адбыцца толькі ў 2025 годзе.

Таму на дадзены момант Еўразійскі эканамічны саюз фактычна не з'яўляецца супольным рынкам, як дэкларуецца. А інфармацыя пра павелічэнне колькасці выняткаў у гандлі[23] выклікае пытанні адносна жыццяздольнасці ўсяго інтэграцыйнага праекта. Праўдападобнай прычынай марудных тэмпаў эканамічнай інтэграцыі з'яўляецца палітызаванае ўспрыняцце ЕАЭС Расіяй. Дубляванне структуры Еўрапейскага Саюза і спробы вяртання да тэмы адзінай валюты паказваюць, што Крэмль бачыць Еўразійскі эканамічны саюз не толькі як эканамічнае аб'яднанне, але і як адзін са складнікаў канкурэнцыі паміж Захадам і Расіяй на постсавецкай прасторы[24].

Па-другое, зменшылася эканамічнае ўзаемадзеянне паміж краінамі. Паводле звестак Еўразійскай эканамічнай камісіі, гандаль таварамі Беларусі з краінамі ЕЭС за 2015 год склаў 74,8% у параўнанні з 2014 годам[25]. Праз эканамічны крызіс у Расіі быў замарожаны расійска-беларускі праект новага калійнага камбіната ў беларускім мястэчку Любань, а цягнікі, выробленыя Stadler-Minsk, былі прададзеныя не ў Расію, як планавалася, а ў Азербайджан[26].

Змяншэнне гандлю ў беларуска-расійскіх дачыненнях адбываецца не толькі праз эканамічны крызіс у Расіі, але і праз слабую канкурэнтаздольнасць беларускіх тавараў. Напрыклад, доля грузавых аўтамабіляў МАЗ на расійскім рынку змяншаецца з хутчэйшай дынамікай, чым у іншых канкурэнтаў на рынку цяжкавікоў у Расіі[27]. У першым квартале 2016 года продажы МАЗаў на расійскім рынку скараціліся на 40% у параўнанні з першым кварталам 2015 года (пры гэтым сам рынак скараціўся на 23,7%)[28].

**Аб'ёмы экспарту тавараў удзельнікаў Еўразійскага эканамічнага саюза ў іншыя краіны аб'яднання**

| Краіна | Аб'ём экспарту ў 2015 годзе ($ млн) | Параўнанне аб'ёму экспарту ў 2015 годзе з аб'ёмам экспарту ў 2014 годзе, % |
|---|---|---|
| Беларусь | 10 998,1 | 68,0 |
| Расія | 28 718,6 | 77,9 |
| Казахстан | 4 886,8 | 68,3 |
| Арменія | 236,6 | 73,0 |
| Кыргызстан | 539,7 | 84,7 |

Уласнае апрацаванне на падставе: Евразийская экономическая комиссия, 2015. 'Взаимная торговля товарами. Статистика Евразийского экономического союза', Москва.

---

22 Цяпер гэта адбываецца часткова.
23 Арсений Сивицкий, Юрий Царик, op.cit.
24 Ibid.
25 Евразийская экономическая комиссия, 2016. 'Взаимная торговля товарами. Статистика Евразийского экономического союза', Москва.
26 Антон Раднянкоў, 2016. *5 прыкмет дэградацыі эканамічных адносін з Расіяй*, <https://ideaby.org/ru-bel-2015-failes> [доступ 27 мая 2016].
27 Завтра твоей страны, 2015. 'Русские и китайцы выдавливают МАЗ', <http://zautra.by/art.php?sn_nid=19176> [доступ 27 мая 2016].
28 TUT.by, 2016. 'В первом квартале продажи белорусских МАЗов в России снизились на 40%', <http://news.tut.by/economics/493189.html> [доступ 27 мая 2016].

Па-трэцяе, хоць Беларусь дзеля еўразійскай інтэграцыі пайшла на ўвядзенне такіх непапулярных захадаў, як павышэнне мытаў на ўвоз аўтамабіляў[29], рэгуляцыі эканамічнага саюза служаць палітычным мэтам Расіі, пра што сведчыць працяг эканамічных войнаў[30]. Яшчэ за месяц да пачатку працы ЕАЭС распачалася новая гандлёвая вайна паміж Беларуссю і Расіяй, калі аднавіліся мытныя праверкі на беларуска-расійскай мяжы. Летам 2015 года Крэмль пайшоў яшчэ на забарону ўвозу ў Расію прадуктаў мясной вытворчасці Беларусі. Хоць канфлікты ўлагоджваюцца праз нейкі час, але гэта паказвае, чаму беларускія ўлады хочуць, каб "ЕАЭС не быў цацкай", кажучы словамі міністра замежных спраў Уладзіміра Макея.

У 2011 годзе, калі Аляксандр Лукашэнка тлумачыў неабходнасць далучэння Беларусі да Еўразійскага эканамічнага саюза, то казаў, што дзякуючы ЕАЭС, то бок супольнаму рынку, скончацца гандлёвыя войны. Гэты разлік беларускіх уладаў не спраўдзіўся. Такім чынам, сёння Беларусь мае абмежаваныя палітычныя магчымасці ўплываць на развіццё еўразійскай інтэграцыі, хоць у галоўных інстытутах ЕАЭС існуе парытэт удзельнікаў аб'яднання, таму Беларусь здольная прасоўваць уласныя інтарэсы па тэхнічных пытаннях[31].

Па-чацвёртае, значэнне нафты і газу, якія гралі ролю адных з найважнейшых матыватараў беларускага далучэння да ЕАЭС[32], рэзка ўпала[33]. Калі пры ранейшых коштах на энергарэсурсы Беларусь атрымлівала "датацыю" (розніца паміж рынкавай цаной і цаной паставак у Беларусь) нават у $ 10 млрд у год[34], то пасля вялікага падзення цаны на нафту значэнне таннага доступу Беларусі да расійскіх энергарэсурсаў знізілася, бо кошты на газ і нафту для Беларусі і краінаў ЕС зраўноўваюцца[35]. Гэта значнае падзенне, улічваючы, што ў 2002–2015 гадах памер энергетычных субсідыяў з боку Расіі перавысіў $ 80 млрд[36]. Беларускія нафтаперапрацоўчыя заводы страцілі пазіцыю лідараў краіны ў прыбытках, а дзяржава замест планаваных $ 3 млрд нафтавых мытаў у год атрымлівае каля $ 1 млрд[37].

Усё гэта не азначае магчымасці раптоўнай змены ў беларускай эканоміцы, бо краіна дагэтуль эканамічна залежыць ад расійскага рынку – згодна

---

[29] Да 1 ліпеня 2011 года мыта на ўвоз аўтамабіля складала ад € 0,35 да € 5 за 1 куб. см у залежнасці ад рабочага аб'ёму рухавіка. Пасля яны выраўняліся з расійскім памерам мыта – ад € 3 да € 5,8.

[30] Дзеля справядлівасці трэба адзначыць, што еўразійская інтэграцыя сама па сабе пераважна адпавядае беларускім эканамічным інтарэсам.

[31] Роман Костицын, 2015. *Лоббистские возможности Беларуси в Евразийской экономической комиссии*, <http://belinstitute.eu/sites/biss.newmediahost.info/files/attached-files/BISS_ER_06_2015ru.pdf> [доступ 27 мая 2016].

[32] Ryhor Astapenia, 2015. *Belarus and the Eurasian Economic Union: The view from Minsk*, <http://www.ecfr.eu/article/commentary_belarus_and_the_eurasian_economic_union_the_view_from_minsk> [доступ 27 мая 2016]; Ирина Точицкая, Роберт Кирхнер, 2014. *Участие Беларуси в Евразийском экономическом союзе*, <http://www.get-belarus.de/wordpress/wp-content/uploads/2014/10/pp2014r05.pdf> [доступ 27 мая 2016].

[33] Беларусь мае амаль 100-працэнтную залежнасць ад Расіі ў сферы пастаўкі паліўна-энергетычных рэсурсаў.

[34] Алексей Данейко, Дмитрий Береснев, Ирина Колесникова, 2013. *Перспективы функционирования экономики Беларуси в системе ЕЭП и ВТО,* "Банкаўскі веснік" № 10 (591).

[35] Беларуская эканамічная мадэль пабудаваная на субсідаванні прамысловасці і сельскай гаспадаркі. Маючы танныя расійскія рэсурсы, Беларусь магла ствараць дадатковы прадукт і экспартаваць яго (напрыклад, прадукты харчавання ў Расію і перапрацаваныя энергарэсурсы на еўрапейскі рынак). Аднак самая сістэма, пабудаваная на гіганцкіх прадпрыемствах, нягнуткая, таму аказалася няздольнай дастасавацца да сённяшніх абставінаў.

[36] Дмитрий Болкунец, 2014. *Состояние и особенности российско-белорусского энергетического сотрудничества,* "*Вестник Российского университета дружбы народов. Серия: Международные отношения*" № 4.

[37] TUT.by, 'Надолго или навсегда? Почему в экономике Беларуси больше никогда не будет "как раньше"', <http://news.tut.by/economics/482080.html> [доступ 27 мая 2016].

з дадзенымі Белстата ў 2015 годзе 38,9% беларускага экспарту[38] і 56,6% імпарту[39] прыпадала на Расію[40]. Нават той гандаль, які сёння існуе з Еўрапейскім Саюзам (каля чвэрці ад агульнага гандлю), – гэта перадусім экспарт нафтапрадуктаў, перапрацаваных у Беларусі з расійскай сыравіны. Фактычна гэты гандаль можа наагул знікнуць у выпадку адпаведнага рашэння Крамля.

Расія мае пазіцыю найбуйнейшага інвестара ў Беларусі і значнага гульца ў банкаўскім сектары Беларусі. Згодна з Белстатам, палова інвестыцыяў у Беларусі паходзяць з Расіі. Апроч таго, Вялікабрытанія і Кіпр, дзе многія расійскія бізнесоўцы (часам і беларускія) рэгіструюць бізнес, знаходзяцца ў тройцы буйнейшых інвестараў. Фінансы ж расійскіх банкаў граюць істотную ролю ў беларускай эканоміцы ў часе эканамічнага крызісу[41].

Выглядае, што Расія болей не ўспрымаецца гарантам эканамічнага дабрабыту Беларусі

Але выглядае, што Расія болей не ўспрымаецца гарантам эканамічнага дабрабыту Беларусі. Хоць 28 сакавіка Еўразійскі фонд развіцця і стабілізацыі зацвердзіў новы крэдыт для Беларусі памерам $ 2 млрд[42], Беларусь працягвае інтэнсіўныя перамовы з Міжнародным валютным фондам аб атрыманні $3 млрд крэдыту. Апроч таго, улады пастаянна шукаюць магчымасці дыверсіфікацыі для экспарту беларускіх тавараў ці павялічваюць ролю іншых дзяржаваў у айчыннай эканоміцы, напрыклад, Кітая, хоць яго ўмовы цяжка назваць выгаднымі – крэдыты, якія выдае гэтая краіна, больш служаць прасоўванню кітайскіх тавараў у Беларусі, чымся наадварот[43]. Усё гэта сведчыць, што беларускія чыноўнікі шукаюць іншыя магчымасці для аднаўлення беларускай гаспадаркі, бо і Беларусь, і Расія яшчэ нейкі час будуць знаходзіцца ў рэцэсіі і наўрад ці здольныя да самастойнага ажыўлення сваіх эканомік.

Адначасова варта адзначыць, што ў выніку расійска-ўкраінскага і расійска-заходняга канфлікту для Беларусі адкрыліся новыя перспектывы. Гаворка не толькі пра рээкспарт заходніх прадуктаў харчавання[44], але і прамысловыя нішы, якія раней займала Украіна на расійскім рынку. Напрыклад, Украіна ў Расію пастаўляла вагоны. У Беларусі была праведзеная мадэрнізацыя некалькіх заводаў, якія вырабляюць чыгуначныя склады, а адно прадпрыемства было пабудаванае з нуля. Таму Беларусь можа быць дастаўнікам шэрагу кампанентаў на расійскі рынак,

38 Национальный статистический комитет Республики Беларусь, ‘Распределение экспорта товаров по странам – основным торговым партнерам в 2015 году’, <http://www.belstat.gov.by/ofitsialnaya-statistika/makroekonomika-i-okruzhayushchaya-sreda/vneshnyaya-torgovlya_2/dannye-o-vneshnei-torgovle-respubliki-belarus-p_2/raspredelenie-eksporta-tovarov-po-stranam-osnovnym-torgovym-partneram-v-2013-godu> [доступ 27 мая 2016].

39 Национальный статистический комитет Республики Беларусь, ‘Распределение импорта товаров по странам – основным торговым партнерам в 2015 году’, <http://www.belstat.gov.by/ofitsialnaya-statistika/makroekonomika-i-okruzhayushchaya-sreda/vneshnyaya-torgovlya_2/dannye-o-vneshnei-torgovle-respubliki-belarus-p_2/raspredelenie-importa-tovarov-po-stranam-osnovnym-torgovym-partneram-v-2013-godu> [доступ 27 мая 2016].

40 Асноўнымі таварнымі рынкамі Беларусі, на якіх актыўна працуюць расійскія кампаніі, з’яўляюцца рынкі энерганосьбітаў, нафтапрадуктаў, металургіі, інфармацыйных тэхналогій, хімічных угнаенняў, будаўнічых паслуг, турыстычных паслуг. Назапашаны аб’ём інвестыцый у буйныя інфраструктурныя праекты энергетыкі Беларусі ў перыяд з 2001 да 2015 г. склаў каля 65% ад сумарнага аб’ёму прамых замежных інвестыцый.

41 Ryhor Astapenia, 2014. *Belarus and Russia: Stagnating Together?*, <http://belarusdigest.com/story/belarus-and-russia-stagnating-together-16640> [доступ 27 мая 2016].

42 Крэдытнае пагадненне паказвае, што праз інтэграцыю Расія таксама спрабуе ўздзейнічаць на правядзенне рынкавых рэформаў у Беларусі – збліжэнне эканамічных мадэляў дзвюх краінаў.

43 Ryhor Astapenia, 2013. *Lukashenka's Chinese Dream*, <http://belarusdigest.com/story/lukashenkas-chinese-dream-14711> [доступ 27 мая 2016].

44 Igar Gubarevich, 2015. *Belarus and Russian Food Embargo: a Success Story?*, <http://belarusdigest.com/story/belarus-and-russian-food-embargo-success-story-23073> [доступ 27 мая 2016].

хоць Беларусь і не была дапушчаная да праграмаў імпартазамяшчэння, якія ажыццяўляюцца расійскімі ўладамі[45].

## Разыходжанні ў замежнай палітыцы і канфлікты элітаў

Беларускія і расійскія эліты доўгі час захоўвалі сваю блізкасць, што звязана з працяглай прарасійскай палітыкай сённяшніх уладаў Беларусі. Беларусь з'яўляецца адзінай краінай былога Савецкага Саюза, дзе руская мова мае статус дзяржаўнай (апроч, натуральна, Расіі). Беларусь таксама свядома маргіналізавала нацыянальную культуру. Раней Аляксандр Лукашэнка пазітыўна ўспрымаўся многімі імперыялістычнымі расійцамі, бо дзякуючы сваім панславянскім і антызаходнім крокам успрымаўся імі як свой. Гэта ілюструе Уладзімір Жырыноўскі, лідар Ліберальна-дэмакратычнай партыі Расіі, які, як сам адзначаў, "меў першапачаткова сімпатыі да Лукашэнкі". Аднак пазней Жырыноўскі расчараваўся ў Лукашэнку, бо пабачыў, што "поспех Лукашэнкі – гэта выключна дапамога Расіі". Выглядае, што негатыўныя пачуцці ў дачыненні да беларускага кіраўніка сталі дамінантнымі ў расійскіх элітаў пасля пачатку вайны ва Украіне, хоць дачыненні паміж Лукашэнкам і Пуціным ці Мядзведзевым традыцыйна былі халоднымі.

> Беларусь з'яўляецца адзінай краінай былога Савецкага Саюза, дзе руская мова мае статус дзяржаўнай

Небяспечная палітыка і эканамічны заняпад Расіі сталі адным з найважнейшых матыватараў для ўладаў Беларусі, каб нармалізаваць дачыненні з Захадам. Дадзеныя Беларускага інстытута стратэгічных даследаванняў (BISS)[46] паказваюць, што ад 2013 года Беларусь зрабіла больш інтэнсіўнымі свае дачыненні з Еўрапейскім Саюзам, а цяпер паказнік кантактаў з ЕС перавышае ўзровень дачыненняў з Расіяй. Гэтаксама відаць, наколькі вялікае значэнне афіцыйны Мінск прысвячае стасункам з Пекінам.

Дадзеныя BISS адлюстроўваюць, што Беларусь пачала нармалізацыю дачыненняў з Еўрапейскім Саюзам і разбудову стасункаў з "краінамі, якія развіваюцца"[47], на пачатку 2013 года, уключна з падтрымкай еўрапейскай інтэграцыі Украіны[48]. Гэта сведчыць, што пашырэнне дыялогу з Захадам пачалося не праз экспансіянісцкую палітыку Расіі, а з уласных прычынаў. Хоць, безумоўна, актывізацыя беларускіх кантактаў са светам і павелічэнне адрозненняў паміж замежнымі палітыкамі Мінска і Масквы цягам 2014–2015 гадоў прайшлі шмат у чым дзякуючы эканамічнаму заняпаду і палітыцы Расіі.

Істотна заўважыць, што нармалізацыя дачыненняў Беларусі з Захадам не з'яўляецца спробай геапалітычнага развароту. Пакуль што Беларусь з аднаго боку і Еўрапейскі Саюз ды Злучаныя Штаты з другога не зрабілі ніводнага кардынальнага кроку ў выглядзе буйных эканамічных праектаў (Беларусь дагэтуль не змагла нават атрымаць крэдыт ад Міжнароднага валютнага фонду), а кантакты ў палітычнай і вайсковай сферах застаюцца

---

[45] Арсений Сивицкий, Юрий Царик, op.cit.

[46] Беларускі інстытут стратэгічных даследаванняў кожныя два месяцы ацэньвае пазітыўныя кантакты паміж Беларуссю і іншымі па шкале ад 1 да 7 і негатыўныя ад -1 да -7. Падрабязнасці метадалогіі пададзеныя напрыканцы кожнага выпуску "Беларускага знешнепалітычнага індэксу": <http://belinstitute.eu/be/analyticscomments/belarus-foreign-policy-index> [доступ 27 мая 2016].

[47] Андрей Елисеев, 2015. *Беларусь и развивающиеся страны: в поиске новых «Венесуэл»*, <http://nmnby.eu/yearbook/2014/page11.html> [доступ 27 мая 2016].

[48] Ryhor Astapenia, 2013. *Lukashenka Helps Ukraine Get Closer to the EU*, <http://belarusdigest.com/story/lukashenka-helps-ukraine-get-closer-eu-15779> [доступ 27 мая 2016].

**Інтэнсіўнасць развіцця вонкавапалітычных кантактаў Беларусі ў 2012–2015 гг.**




Уласнае апрацаванне на падставе “Знешнепалітычнага індэксу” BISS: <http://belinstitute.eu/be/analyticscomments/belarus-foreign-policy-index> [доступ 27 мая 2016].

на нізкім узроўні. Добрым прыкладам з’яўляюцца інтарэсы Літвы, якая традыцыйна знаходзіцца сярод лабістаў дыялогу з рэжымам Лукашэнкі – яны дагэтуль ігнаруюцца пры пабудове атамнай электрастанцыі ў Астраўцы, на беларуска-літоўскай мяжы. Гэта паказвае, што беларускае кіраўніцтва бачыць сваёй задачай не геапалітычны разварот, але магчымасць манеўравання паміж Захадам і Расіяй.

У пошуках большай прасторы для балансавання на міжнароднай арэне Беларусь спрабуе сябе пазіцыянаваць як нейтральную краіну, захоўваючы дыстанцыю ад палітыкі Крамля. Мінск даў сабе імя пляцоўкі мірных перамоваў па ўкраінскім канфлікце і прапанаваў свае мадэратарскія паслугі “брацкай Расіі” і “сяброўскай Турцыі”[49] пасля збіцця расійскага вайсковага самалёта СУ-24 Турцыяй у лістападзе 2015 года. Развіццё прыязных дачыненняў з геапалітычнымі праціўнікамі Крамля на Блізкім Усходзе[50], адмова ад стварэння адзінага візавага рэжыму[51] або ўцягванне Кітая ў беларускую эканоміку наўрад ці былі пазітыўна ўспрынятыя ў Крамлі.

У другой палове 2015 года колькасць кантактаў з Кітаем, як паказваюць дадзеныя BISS, перавысіла колькасць кантактаў з Расіяй. Амбасадар Расійскай Федэрацыі ў Беларусі Аляксандр Сурыкаў неаднаразова наўпрост ці ўскосна выступаў за тое, каб абараніць рынкі ЕАЭС ад “нядобрасумленнай канкурэнцыі”. Гэта шмат у чым звязана са стварэннем Кітайска-беларускага індустрыяльнага парка “Вялікі камень”, чые рэзідэнты атрымаюць значныя падатковыя льготы, дзякуючы чаму будуць мець эканамічныя перавагі ў канкурэнцыі з расійскімі вытворцамі[52]. Такім чынам, варта чакаць пэўнага канфлікту паміж Беларуссю ды Кітаем з аднаго боку і Расіяй з другога ў выпадку, калі “Вялікі камень” пачне развівацца.

---

[49] Акрэсленне дзяржаваў узятае з выказвання прэс-сакратара Міністэрства замежных спраў Беларусі: <http://mfa.gov.by/press/news_mfa/eaaf182c8b63ddc7.html> [доступ 27 мая 2016].

[50] Siarhei Bohdan, 2015. *Belarus Turns to Pro-Western Nations in the Middle East*, <http://belarusdigest.com/story/belarus-turns-pro-western-nations-middle-east-22573> [доступ 27 мая 2016].

[51] Igar Gubarevich, 2015. *Russia Pushes for Single Visa Space, Belarus Resists*, <http://belarusdigest.com/story/russia-pushes-single-visa-space-belarus-resists-21852> [доступ 27 мая 2016].

[52] Информационный офис солидарности с Беларусью, 2012. ‘Белорусско-китайский индустриальный парк создается вопреки интересам России’, <http://belarusinfocus.info/by/p/5490belorussko-kitayskiy_industrialnyy_park_sozdaetsya_vopreki_interesam_r> [доступ 27 мая 2016].

Пакуль што кіраўнікі Беларусі і Расіі захоўваюць прыязнасць пры публічных сустрэчах. Аднак наўрад ці выказванні Лукашэнкі, кшталту, “калі Крым расійскі, то большая частка Расіі належыць Манголіі ці Казахстану”, былі пазітыўна ўспрынятыя ў Крамлі. Пра гэта ўскосна сведчыць агульная танальнасць расійскіх экспертаў ці медыяў, якая пахаладзела пасля пачатку канфлікту ва Украіне. Расійскім нацыяналістам, якія гуртуюцца вакол такіх сайтаў, як “Регнум” ці “Спутник и погром”, не даспадобы жаданне беларускіх элітаў захаваць незалежнасць, больш ліберальныя ж колы, кажучы словамі расійскага палітолага Андрэя Суздальцава, незадаволеныя, што “Беларусь жыве за кошт Расіі”[53], але захоўвае самастойнасць ва ўнутранай і замежнай палітыцы. Хоць Беларусь дагэтуль не станавілася мішэнню атак найбуйнейшых расійскіх тэлеканалаў, многія вялікія расійскія СМІ, як REN TV і Lenta.ru, ці меншыя, як “Спутник и погром” альбо “Правда”, рабілі рэпартажы пра ўздым нацыяналізму ў Беларусі пры спрыянні ўладаў[54].

**У другой палове 2015 года колькасць кантактаў з Кітаем перавысіла колькасць кантактаў з Расіяй**

Іншы канал распаўсюду расійскай незадаволенасці – гэта экспертная супольнасць. У канцы 2015 і пачатку 2016 года ў Маскве прайшлі дзве канферэнцыі, часткова альбо цалкам прысвечаныя Беларусі. Першая, “Русафобія і інфармацыйная вайна супраць Расіі”, прайшла 25–26 верасня 2015 года. На пачатку канферэнцыі арганізатары раздалі ўдзельнікам даклад “Беларускі нацыяналізм супраць рускага свету”, а беларускія выступоўцы расказалі, што “русафобія ў Беларусі атрымлівае шырокі распаўсюд, пераходзячы з маргінальных колаў у афіцыйныя”[55].

Другая канферэнцыя “БелаРускі дыялог”, арганізаваная ў Вышэйшай школе эканомікі, прайшла пры ўдзеле экспертаў і палітыкаў у Маскве 25–26 студзеня 2016 года. Неадназначную рэакцыю выклікала меркаванне двух удзельнікаў канферэнцыі, якое ўвайшло ў выніковае рэзюмэ[56], пра існаванне ў Беларусі “негалоснай забароны на працу ў органах дзяржаўнай улады для грамадзян, якія атрымалі адукацыю ў Расіі”. Натуральна, што большасць беларускіх выступоўцаў казалі, што гэткай забароны не існуе, і наўрад ці яны задаволеныя, што іх выкарысталі для ачарнення іміджу Беларусі[57].

Такім чынам, паміж шырокімі беларускімі і расійскімі элітамі з’яўляецца інерцыя, якая будзе іх аддаляць адно ад аднаго. Чым болей расійскія і прарасійскія эксперты будуць неадэкватна ўспрымаць матывацыі ўладаў Беларусі ці абараняць аслабленне беларускай незалежнасці, тым болей беларускія ўлады будуць вымушаныя яе ўмацоўваць. Як прыклад, Аляксандр Лукашэнка ўпершыню за шмат гадоў прамовіў па-беларуску менавіта пасля пачатку расійска-ўкраінскага канфлікту.

53 Коммерсант, 2015. ‘Живут за счет России’, <http://www.kommersant.ru/doc/2840031> [доступ 27 мая 2016].

54 Alexander Čajčус, 2016. *Russian Media Attack Belarus: Minsk Remains On The Kremlin Radar*, <http://belarusdigest.com/story/russian-media-attack-belarus-minsk-remains-kremlin-radar-24482> [доступ 27 мая 2016]; Alexander Čajčус, 2015. *Russian Media Attack Belarus: A Warning For Minsk?*, <http://belarusdigest.com/story/russian-media-attack-belarus-warning-minsk-21055> [доступ 27 мая 2016].

55 Информационно-аналитический портал “Евразия”, 2015. ‘Терпимость к русофобии недопустима’, <http://evrazia.org/article/2738> [доступ 27 мая 2016].

56 Политическое обозрение, 2015. ‘Международная конференция “БелоРусский диалог”. Итоговое коммюнике’, <http://politoboz.com/content/mezhdunarodnaya-konferenciya-belorusskiy-dialog-itogovoe-kommyunike> [доступ 27 мая 2016].

57 Пазней арганізатары апублікавалі заяву Тацццяны Караткевіч, кандыдата на прэзідэнцкіх выбарах Беларусі ў 2015 годзе і ўдзельніцы канферэнцыі, якая зняпраўджвала інфармацыю пра пераслед чыноўнікаў, якія атрымалі адукацыю ў Расіі: <http://politoboz.com/content/mezhdunarodnaya-konferenciya-belorusskiy-dialog-obsuzhdenie-itogovogo-kommyunike-zayavleniya> [доступ 27 мая 2016].

Нягледзячы на тое, што працэс суверэнізацыі Беларусі сапраўды мае месца, расійскія эксперты не ўсведамляюць, што іх уласная экспансіяністцкая рыторыка і з’яўляецца адной з прычынай канфлікту паміж шырокімі расійскімі і беларускімі элітамі. Напрыклад, вядучы навуковы супрацоўнік блізкага да Крамля Расійскага інстытута стратэгічных даследаванняў Алег Няменскі пасля відэамоста беларускіх і расійскіх экспертаў 8 кастрычніка 2015 года напісаў, што беларускіх прадзяржаўных экспертаў аб’ядноўвае “нянавісць да рускага свету”[58]. На практыцы ж беларускія калядзяржаўныя эксперты дастаткова прарасійскія, а ўсяго толькі асцерагаюцца, што пасля Крыма і Данбаса Крэмль накіруе свае высілкі на дэстабілізацыю Беларусі ці ўцягне Мінск у расійска-заходняе супрацьстаянне. Іх задачай з’яўляецца захаванне беларускай суверэннасці, а не будаванне альянсу з Захадам супраць Расіі.

# “Піравая перамога” расійскіх СМІ ў Беларусі

Расійска-ўкраінскі канфлікт паказаў Беларусі, наколькі істотным з’яўляецца кантроль над уласнай медыяпрасторай. Краіна дагэтуль жыве ў крыху зрэфармаванай беларускімі ўладамі, але ўсё адно расійскай медыясістэме[59]. Дзве траціны беларусаў праводзяць штодзень больш за гадзіну перад тэлевізарам, і афіцыйна самы папулярны канал у Беларусі – АНТ. На гэтай падставе аўтары даклада Інфармацыйна-аналітычнага цэнтра пры Адміністрацыі прэзідэнта Беларусі сцвярджаюць, што “нацыянальныя каналы застаюцца найбольш запатрабаванымі”. Але адначасова яны прыводзяць дадзеныя, якія паказваюць, што высокая колькасць тэлегледачоў АНТ звязаная перадусім з рэтрансляванымі расійскімі перадачамі. У пяцёрцы найбольш прагляданых перадач АНТ чатыры расійскія і адна супольная беларуска-расійская[60]. Падобная сітуацыя і ў выпадку “НТВ-Беларусь” і “РТР-Беларусь”.

**Пяць найбольш папулярных тэлеканалаў Беларусі**

| Канал | Колькасць беларусаў, якія глядзелі тэлеканал цягам тыдня, % |
|---|---|
| АНТ | 60,3 |
| “Беларусь 1” | 53,6 |
| “НТВ-Беларусь” | 50,6 |
| “РТР-Беларусь” | 45,3 |
| “Беларусь 2” | 39,3 |

Дадзеныя Інфармацыйна-аналітычнага цэнтра пры Адміністрацыі прэзідэнта Беларусі.

Статыстычная дамінацыя Расіі ў друкаваных СМІ не настолькі відавочная, бо ўлады Беларусі вымушаюць прадпрыемствы і ўстановы падпісвацца на беларускія дзяржаўныя газеты. Аднак нягледзячы на пераважны фінансавы і адміністрацыйны рэсурс, галоўная дзяржаўная газета “СБ. Беларусь сёння” саступае па папулярнасці (колькасці беларусаў, якія чыталі

58 Олег Неменский, 2015. *Видеомост с Минском*, <http://olegnemen.livejournal.com/532442.html> [доступ 27 мая 2016].

59 79,9% беларусаў стала глядзяць расійскае тэлебачанне, паводле звестак Беларускай аналітычнай майстэрні за сакавік 2015 года: Белорусская аналитическая мастерская, 2015. ‘Общественное мнение как предвыборный контекст’, <http://www.belaw.eu/?p=1412> [доступ 27 мая 2016].

60 Информационно-аналитический центр при Администрации президента Республики Беларусь, 2014. ‘Медиасфера Беларуси. Социологический аспект’, <http://iac.gov.by/sbornik/Mediasfera_Belarusi.pdf> [доступ 27 мая 2016].

выданне цягам апошняга месяца) “Комсомольской правде в Беларуси”[61]. Варта падкрэсліць, што “Комсомольская правда”, як і адкрытае ў канцы 2014 года прадстаўніцтва расійскага інфармацыйнага агенцтва “Спутник”, адрозніваецца ад іншых расійскіх медыяў, бо працуе ўнутры Беларусі і большасць яе працаўнікоў – беларусы. Таму гэтыя рэсурсы ў меншай ступені ў стане служыць прасоўванню інтарэсаў Крамля, бо існуюць у беларускім кантэксце.

Сярод 10 найбольш папулярных у Беларусі сайтаў толькі два з’яўляюцца беларускімі. Паводле звестак кампаніі Gemius за студзень 2015 года, Tut.by мае пятае месца ў Беларусі, а Onliner.by – дзявятае. Астатнія ж сайты з’яўляюцца расійскімі ці амерыканскімі. Нягледзячы на дзяржаўнае дамінаванне ў эканоміцы, абодва беларускія сайты, якія ўваходзяць у ТОП-10, – прыватныя, а іх уладальнікі ці журналісты раз-пораз натыкаюцца на крытыку з боку ўладаў Беларусі. У канцы 2014 года Міністэрства гандлю заблакавала доступ да Onliner.by на некалькі тыдняў, а ў красавіку 2015 года Аляксандр Лукашэнка папрасіў “нармалізаваць Юрыя Зісера”, уладальніка Tut.by. Варта, аднак, адзначыць, што інфармацыю пра папулярнасць сайтаў трэба ўспрымаць крытычна, бо некаторыя сайты спалучаюць у сабе не толькі інфармацыйную ролю, але пошукавы, паштовы ці нават гандлёвы сэрвіс.

**Дзесяць найбольш папулярных сайтаў Беларусі (студзень 2015 г.)**

| Пазіцыя | Сайт | Наведнікі (рэальныя карыстальнікі) | Дасяг ад агульнай колькасці карыстальнікаў інтэрнэту, % |
|---|---|---|---|
| 1 | google.com | 3,296,075 | 67,6 |
| 2 | vk.com | 2,577,391 | 52,9 |
| 3 | mail.ru | 2,540,813 | 52,1 |
| 4 | yandex.by | 2,367,264 | 48,6 |
| 5 | tut.by | 2,330,714 | 47,8 |
| 6 | youtube.com | 2,094,922 | 43,0 |
| 7 | aliexpress.com | 1,536,779 | 31,5 |
| 8 | odnoklassniki.ru | 1,256,636 | 25,8 |
| 9 | onliner.by | 1,148,126 | 23,6 |
| 10 | ru.wikipedia.org | 1,118,616 | 23,0 |

Дадзеныя: Даследаванне кампаніі Gemius для Еўрапейскага фонду за дэмакратыю.

Медыйнае дамінаванне Расіі абумоўлівае, што расійская культура ў Беларусі застаецца больш папулярнай за беларускую. Слабы фінансавы стан беларускай культуры і адсутнасць шоу-бізнесу пагаршаюць сітуацыю. Што горш, многія беларусы, якія дасягнулі поспеху ў Расіі, як сцэнарыст Андрэй Курэйчык, не знаходзяць у Беларусі дзяржаўнай падтрымкі для творчасці. Некаторыя беларускія артысты, як Сяргей Міхалок, дагэтуль знаходзяцца ў “чорным спісе” выканаўцаў, якім забаронена ладзіць канцэрты, не кажучы ўжо пра выступы на беларускім тэлебачанні. Гэта паказвае, што ўплыў расійскіх медыяў і культуры часта з’яўляецца вынікам не расійскай палітыкі, а беларускай. Болей за тое, некаторыя крокі расійскіх уладаў, як з’яўленне беларускамоўнай версіі сайта інфармагенцтва “Спутник” ці падтрымка беларускай культуры “Газпромам”, паказваюць, што Расія не хацела б выглядаць апанентам беларускай культуры.

[61] Ibid.

Аднак, нягледзячы на вялікае значэнне расійскіх СМІ, іх уплыў змяншаецца. Згодна з дадзенымі Беларускай аналітычнай майстэрні, колькасць людзей, якія ў Беларусі не глядзяць расійскае тэлебачанне, узрасла ўдвая за апошнія два гады (ад 10,9 да 20,6%)[62]. Гэта звязана перадусім з негатыўным успрыняццем расійскай ролі ў канфлікце ва Украіне і яе медыйным суправаджэннем. Хоць большасць беларусаў ацэньваюць анексію Крыма як справядлівую, амаль трацiна беларусаў сталі горш ставіцца да Расіі пасля падзеяў ва Украіне[63].

Гэта адбываецца пры тым, што дамінаванне расійскіх СМІ не карэлюецца з беларускай грамадскай падтрымкай дзеянняў Расіі. Дадзеныя Незалежнага інстытута сацыяльна-эканамічных і палітычных даследаванняў сведчаць, што людзі падтрымліваюць альбо асуджаюць анексію Крыма, незалежна ад таго, глядзяць яны ці не глядзяць расійскае тэлебачанне. Стаўленне да расійска-ўкраінскага канфлікту больш звязанае з асабістымі ўстаноўкамі людзей, чымся апіраецца на ўплыў расійскіх СМІ[64].

> Нягледзячы на сваё асуджэнне ці адабрэнне расійскай палітыкі, беларусы, думаючы пра стаўленне беларускай дзяржавы да канфлікту, сыходзяць з уласных інтарэсаў, а не расійскіх

І нягледзячы на сваё асуджэнне ці ўхваленне расійскай палітыкі, беларусы, думаючы пра стаўленне беларускай дзяржавы да канфлікту, сыходзяць з уласных інтарэсаў, а не расійскіх. 58,7% беларусаў падтрымліваюць палітыку Аляксандра Лукашэнкі адносна ўкраінскага крызісу[65], а 74,8% выказаліся супраць таго, каб у выпадку ўваходу расійскіх войскаў ва Украіну Беларусь дазволіла гэты ўваход са сваёй тэрыторыі[66].

Раней расійскае тэлебачанне казала адрозныя рэчы ад беларускага, але гэта мела выпадковы характар. У ацэнках жа падзеяў ва Украіне розніца доўгачасовая ды істотная. Як прыклад, Аляксандр Лукашэнка называў дзеянні Расіі супраць Украіны “незаконнай агрэсіяй” і некалькі разоў пазітыўна адгукаўся пра кіраўнікоў паслямайданнай Украіны (Аляксандра Турчынава ён называў “прыстойным і сумленным чалавекам” ды казаў Парашэнку, што “мы родныя людзі”). У гэты ж момант расійскія медыі абвінавачвалі ўкраінскіх палітыкаў у дзяржаўным перавароце.

Падобнае разыходжанне ў падачы інфармацыі вымусіла беларускіх дзяржаўных журналістаў нават крытыкаваць расійскае тэлебачанне – Павел Якубовіч, галоўны рэдактар “СБ. Беларусь сегодня”, заявіў, што расійскія СМІ не аб’ектыўныя ў ацэнцы падзеяў ва Украіне. Болей за тое, расійская прапаганда паспрыяла таму, што ўлады Беларусі пераглядаюць сваё стаўленне да інфармацыйнай і культурнай палітыкі. Цяпер дзяржаўнае тэлебачанне часцей запрашае незалежных экспертаў на галоўную публіцыстычную перадачу Беларусі “Справа прынцыпу” ды пачынаюць пераклад замежных фільмаў на беларускую мову[67].

Расійска-ўкраінскі канфлікт не з’яўляецца адзінай прычынай, чаму адбываецца змяншэнне ролі Расіі ў грамадскай сферы Беларусі. Пэўнае значэнне таксама мае эканамічны заняпад Расіі, што паказвае колькасць

---

62 Белорусская аналитическая мастерская, op.cit.

63 НИСЭПИ, 2014. ‘Национальный опрос 2–12 декабря 2014’, <http://www.old.iiseps.org/data14-121.html> [доступ 27 мая 2016].

64 НИСЭПИ, 2014. ‘Телепропаганда и жизнь’, <http://www.iiseps.org/?p=1413> [доступ 27 мая 2016].

65 НИСЭПИ, 2014. ‘Национальный опрос 2–12 декабря 2014', <http://www.old.iiseps.org/data14-121.html> [доступ 27 мая 2016].

66 НИСЭПИ, 2014. ‘Телепропаганда и жизнь’, <http://www.iiseps.org/?p=1413> [доступ 27 мая 2016].

67 TUT.by, ‘Иностранные фильмы на канале «Беларусь 3» зазвучат по-белорусски’, <http://news.tut.by/culture/483629.html> [доступ 27 мая 2016].

друкаваных у Беларусі кніг на рускай і беларускай мовах. Дагэтуль штогод кнігі на беларускай мове, паводле дырэктаркі Нацыянальнай кніжнай палаты Беларусі Алены Івановай, складалі каля 10–12% ад агульнай колькасці выдадзеных кніг. Цяпер жа гэты працэнт расце, але не дзякуючы павелічэнню накладаў беларускамоўных кніг, але падзенню расійскага кніжнага рынку, якое прывяло да таго, што беларускія выдавецтвы менш друкуюць на рускай мове[68].

# Высновы

Нягледзячы на змяншэнне залежнасцяў Беларусі ад Расіі, наўрад ці дачыненні дойдуць да гучнага разрыву інтэграцыйных адносінаў.

Па-першае, Беларусь хоць і змяншае значэнне Расіі для сябе, але застаецца празмерна залежнай ад фінансавання з Расіі ў выглядзе крэдытавання, “субсідыяў” з Расіі ў выглядзе зніжак на нафту і газ ды доступу да супольнага рынку. Без Расіі Беларусь не зможа прадаваць столькі бензіну Захаду, калі Крэмль абмяжуе пастаўкі сыравіннай нафты. Расія кантралюе газавую інфраструктуру Беларусі, наглядае працу нафтавых перапрацоўчых заводаў, фінансуе пабудову атамнай электрастанцыі і мае значны ўплыў на вытворчасць электрычнасці, якая выпрацоўваецца з расійскага газу[69]. Таму нават без прывязкі да актуальных абставінаў выглядае, што добрыя дачыненні з краінай, з якой Беларусь мае сваю найдаўжэйшую мяжу, яшчэ доўгі час (а, можа быць, заўсёды) будуць ляжаць у беларускім нацыянальным інтарэсе.

Гэтаксама Аляксандру Лукашэнку важна, каб Расія прызнавала вынікі прэзідэнцкіх выбараў у Беларусі, каб не стаць празмерна ўразлівым у выпадку, калі выбары ў Беларусі не будуць прызнавацца ніводным з буйных геапалітычных актораў у рэгіёне. Болей за тое, у палітычным плане гэта перадусім Крэмль стварае значнасць беларускага рэжыму для Захаду. Без агрэсіўнай палітыкі Расіі Лукашэнка хутка вернецца ў стан ізгоя і “апошняга дыктатара Еўропы”, якім ён перастаў быць дзякуючы расійскай агрэсіі ва Украіне[70].

Па-другое, Беларусь застаецца “ў чыстым стратэгічным значэнні, магчыма, найбольш важнай краінай для Расіі ў Еўропе”[71], таму Крэмль не дазволіць поўнай дэзынтэграцыі краінаў. Беларусь з’яўляецца для Расіі вайсковым “стратэгічным гаўбцом”, кантралюе транзітны шлях да Калінінграда, а значныя пастаўкі энергарэсурсаў у заходнія краіны ідуць праз Беларусь. Краіна гэтаксама мае вялікае прэстыжнае значэнне для Расіі, паколькі без Беларусі Расія страціць апошнюю краіну ў Еўропе, якая з’яўляецца хай і цяжкім, але саюзнікам. Выйсце Беларусі з зоны расійскіх уплываў стане вялікай паразай унутранай і замежнай палітыкі Крамля. Таму выглядае, што разварот Беларусі ў бок Еўрапейскага Саюза магчымы толькі пры

[68] Андрей Жвалевский, 2016. *Белорусские идут, или как менялся белорусский книжный рынок в 2015 году*, <http://az-book.info/belorusskie-idut-ili-kak-menyalsya-belorusskij-knizhnyj-rynok-v-2015-godu> [доступ 27 мая 2016].

[69] Ryhor Astapenia, 2014. *Belarus on the Russian Energy Needle*, <http://belarusdigest.com/story/belarus-russian-energy-needle-16594> [доступ 27 мая 2016].

[70] Ryhor Astapenia, 2014. *Belarus is no longer ‘Europe's last dictatorship’*, <http://www.theguardian.com/world/2014/sep/12/belarus-no-longer-europe-last-dictatorship> [доступ 27 мая 2016].

[71] Dmitri Trenin, 2001. *The End of Eurasia: Russia on the Border Between Geopolitics and Globalization*, Moscow, p. 160.

ўмове, што Расія пойдзе на аналагічны крок[72]. Расія бачыць свой уплыў на Беларусь першародным. Таму, як паказвае прыклад Украіны, спробы Беларусі самастойна развярнуцца ў бок Захаду будуць мець наступствы ў выглядзе пагрозаў дэстабілізацыі краіны з боку Крамля.

Такім чынам, у інтарэсах абедзвюх дзяржаваў знаходзіцца захаванне блізкіх дачыненняў, пры тым, што гэтыя інтарэсы выглядаюць трывалымі ды адпавядаюць Беларусі і Расіі, незалежна ад таго, хто імі кіруе. Болей за тое, абедзве краіны могуць выйграць, калі перастануць выкарыстоўваць “буферную інтэграцыю”[73], а беларуска-расійскія дачыненні страцяць сваё эмацыйнае напаўненне. Гэта пазбавіць магчымасці выкарыстоўваць папулізм ва ўзаемных стасунках і зробіць іх больш устойлівымі.

> Спробы Беларусі самастойна развярнуцца ў бок Захаду будуць мець наступствы ў выглядзе пагрозаў дэстабілізацыі краіны з боку Крамля

Пакуль жа працэс аддалення будзе далей працягвацца, што звязана ў тым ліку са зменамі пакаленняў унутры грамадстваў. Колькасць беларусаў, якія жылі ў адной дзяржаве з Расіяй, стала змяншаецца, з’яўляецца новая наменклатурная эліта[74], колькасць людзей, якія ідэнтыфікуюць сваю нацыянальнасць як рускую, змяншаецца[75], ажывае зацікаўленасць беларускай культурай[76], моладзь становіцца больш адкрытай свету. Апошняе, але не менш істотнае – у Беларусі сфармаваўся палітычны клас, які прызвычаіўся да суверэннай улады, калі рашэнні прымаюцца самастойна.

Аднак гэтая дэзынтэграцыя не абавязкова звязаная з разыходжаннямі кіроўных элітаў Мінска і Масквы адносна канфлікту ва Украіне альбо з эканамічным крызісам у Расіі. Гэта хутчэй працэс самастанаўлення Беларусі, які ідзе паволі ад аднаўлення незалежнасці ў 1991 годзе. Кантраляванне сваёй вайсковай бяспекі, узмацненне медыйнай сістэмы і ўласнай культуры, нармалізацыя дачыненняў з буйнымі геапалітычнымі актарамі ці эканамічная дыверсіфікацыя – гэта не барацьба Беларусі супраць Расіі, а толькі дзяржаўная эмансіпацыя.

---

[72] Еўрарадыё, 2009. ‘Расія не будзе моцна раўнаваць Беларусь да Еўропы’, <http://euroradio.fm/rasiya-ne-budze-mocna-raunavac-belarus-da-europy> [доступ 27 мая 2016].

[73] Болей пра “буферную інтэграцыю”: Анатолий Паньковский, 2007. ‘Буферные формы: в Европу через отрицание Европы’ [у:] Ольга Шпарага (сост.). *Европейская перспектива Беларуси: интеллектуальные модели*, Вильнюс, с. 174–192.

[74] Ryhor Astapenia, 2015. *Who Will Get Positions in the New Government: Conservatives or Reformists?*, <http://belarusdigest.com/story/who-will-get-positions-new-government-conservatives-or-reformists-23483> [доступ 27 мая 2016].

[75] Vadzim Smok, 2013. *Belarusian Identity - The Impact of Lukashenka's Rule*, <http://belarusdigest.com/story/analytical-paper-belarusian-identity-impact-lukashenkas-rule-16369> [доступ 27 мая 2016].

[76] Ryhor Astapenia, 2014. *Is Lukashenka Trying to Emancipate Belarus from Russian Culture?*, <http://belarusdigest.com/story/lukashenka-trying-emancipate-belarus-russian-culture-19510> [доступ 27 мая 2016].

# Пра аўтараў

**Рыгор Астапеня** – аналітык і дырэктар па развіцці Цэнтра Астрагорскага. Рыгор таксама рэдагуе беларускі інтэрнэт-часопіс "Ідэя" і працуе над сваёй кандыдацкай дысертацыяй у Варшаўскім універсітэце. Паходзіць з Салігорска. Кантактны адрас – r.astapenia@ostrogorski.org.

**Дзмітрый Балкунец** – эксперт у расійска-беларускіх дачыненнях. Дзмітрый працуе ў Вышэйшай школе эканомікі ў Маскве і з'яўляецца адным з арганізатараў канферэнцыі "БелаРускі дыялог". Паходзіць са Слоніма. Кантактны адрас – balkunets@gmail.com.

# Пра Цэнтр Астрагорскага

Цэнтр Астрагорскага – прыватная некамерцыйная арганізацыя, якая займаецца праблемамі, з якімі сутыкаецца Беларусь у часе свайго пераходу да рынкавай эканомікі і вяршэнства права. Праца цэнтра накіраваная на дасягненне практычных вынікаў.

Цэнтр з'яўляецца першай "фабрыкай думкі", заснаванай беларусамі, якія атрымалі адукацыю на Захадзе і жывуць у Беларусі і Еўрапейскім Саюзе. Аналітыкі, якія працуюць у Мінску, Кіеве, Лондане і Берліне, разумеюць выклікі трансфармацыі ў рэгіёне, бо самі прайшлі праз іх. Атрымаўшы адукацыю ў вядучых універсітэтах свету, эксперты цэнтра выпрацавалі культуру і тэхнічныя здольнасці, неабходныя для аналітыкі ў заходняй стылістыцы.

Цэнтр мае на мэце папулярызацыю рэформаў і мыслення, якое дапаможа зрабіць эканоміку больш канкурэнтнай, кіраванне больш эфектыўным, а таксама будзе спрыяць інтэграцыі беларускіх навукоўцаў і аналітыкаў у міжнародныя навуковыя супольнасці.

